# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ




**Свабода! Справядлівасць! Салідарнасць!**

Бюлетэнь БСДП, г. Магілёў, №2, сакавік 2013г.

## МАГІЛЁЎСКІЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ ІНІЦЫЮЮЦЬ ЗАКОН “АБ ГРАМАДСКІХ СЛУХАННЯХ”

**З дапамогай якога будуць рэгулявацца ўзаемаадносіны грамадскасці, бізнесу і ўлады, а таксама плануецца ўзвысіць статус самога паняцця грамадскіх слуханняў.**



Пра неабходнасць новага закона распавядае лідар магілёўскіх сацыял-дэмакратаў **Ігар Барысаў:**

“Мы сочым за тым, што адбываецца ў нашым горадзе, — як праходзяць грамадскія слуханні і як яны ігнаруюцца ў тых выпадках, калі яны павінны адбывацца. Працуючы і разбіраючыся з дакументамі, мы прыйшлі да высновы, што агульнага закона, які бы рэгуляваў і прапісваў працэдуру правядзення грамадскіх слуханняў, няма. Ёсць нейкія інструкцыі, палажэнне Саўміна, падпункты ў Кодэксах, аднак паўнавартасны закон адсутнічае”.

Сацыял-дэмакрат прыводзіць тры яскравыя прыклады, калі не былі ўлічаны інтарэсы грамадзян.

Першы — гэта сітуацыя з раёнам “Чапаеўкі”. Паводле зацверджанага плана развіцця Магілёва да 2030 года на месцы раёна прыватных дамоў мусіць паўстаць раён шматпавярховак. Пры тым, што шмат дамоў “Чапаеўкі” можна смела аднесці да катэгорыі элітных. Людзей ніхто ні пра што не пытаў — улады ім проста паведамілі аб сваіх планах.

Другім прыкладам — сітуацыя з будаўніцтвам новага дома на мікрараёне “Юбілейны”, дзе на месцы бярозавага гайка мусіць паўстаць элітная высотка. Аб пазіцыі жыхароў з нагоды ўшчыльнення мікрараёна і высечкі бярозавага гайка таксама ніхто не пытаў. Улады спасылаліся на тое, што грамадскія слуханні не трэба праводзіць, бо 40 гадоў назад быў зацверджаны генплан развіцця горада, і на месцы цяперашняга гайка шматпавярховыя дамы ўжо значыліся.

Трэці выпадак, калі выдзяленне зямлі агульнага карыстання адбылося дэпутату-фермеру Юрыю Коршунаву ў вёсцы Нядашава-2 Магілёўскага раёна. Фермер разараў луг і засееў яго кукурузай, у выніку чаго ўся вёска аказалася пазбаўлена свабоднага доступа да вадасховішча. Пра ход кампаніі расказвае Ігар Барысаў:

“Мы на месцы правядзем інфармацыйную лакальную кампанію, збярэм подпісы. Мы будзем звяртацца як у гарсавет, так і да “абраных” дэпутатаў парламента, каб яны паспрабавалі ініцыяваць прыняцце гэтага закона па патрабаванні грамадзян. Мы будзем збіраць подпісы ў праблемных раёнах, то бок там, дзе не праходзілі грамадскія слуханні, а мусілі праводзіцца, і парушаліся правы грамадзян”.

Сацыял-дэмакрат спадзяецца, што ягоную ініцыятыву падтрымае не толькі ўся Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), аднак і іншыя грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі.

Праваабаронца **Барыс Бухель** пагаджаецца, што такі закон проста неабходны:

“Закон “Аб грамадскіх слуханнях” неабходны. Ён мусіць урэгуляваць парадак уліку грамадскай думкі. Дастаткова поўна ён урэгуляваны ў экалагічным заканадаўстве і ў нейкай ступені ў галіне архітэктуры, градабудаўніцтва і будаўнічай дзейнасці. У Водным кодэксе, Кодэксе аб зямлі, градабудаўніцтве прапісана, што павінна ўлічвацца грамадская думка, аднак як гэта мусіць рабіцца, не абгаворана. Патрэбен агульны закон, тым болей што ёсць пытанні малых мікрараёнаў, двароў, калі неабходна ўлічваць думкі невялікіх груп людзей, а там пра гэта нічога не сказана, толькі агульныя словы”.

*Патрэбен агульны закон, тым болей што ёсць пытанні малых мікрараёнаў, двароў, калі неабходна ўлічваць думкі невялікіх груп людзей*

Варта адзначыць, што з нагоды ініцыяцыі Закона “Аб грамадскіх слуханнях” у бліжэйшы час у Магілёве адбудзецца круглы стол. Пасля яго пачнецца збор подпісаў пад узгаданай ініцыятывай.

**BSDP.ORG**
сайт прыхільнікаў БСДП (Грамады)

**bsdpps@tut.by**
адрас электроннай скрыні БСДП (Грамады)

# У МАГІЛЁВЕ 330 МЕТРАЎ УДЗЯЧНАСЦЯЎ ЗНАЙШЛІ СВАІХ АДРАСАТАЎ

**Магілёўскія актывісты БСДП выслалі 1100 лістоў гараджанам, якія паставілі свае подпісы ў падтрымку экс-кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Леаніда Падбярэцкага.**

У лістах словы падзякі і спадзяванні на далейшае супрацоўніцтва. Жанчыны атрымалі таксама і паштоўкі да 8-га сакавіка.

"Мы не павінны пакідаць без увагі тых людзей, якія паставілі подпісы ў падтрымку нашага партыйнага кандыдата, - гаворыць лідар Магілёўскіх сацыял-дэмакратаў Ігар Барысаў, - У высланых лістах мы кажам дзякуй за падтрымку пры вылучэнні і прапануем далей працаваць разам над праблемай правядзення Грамадскіх слуханняў у горадзе. Мы тлумачым гараджанам чаму гэта неабходна і што надыйшоў час увядзення новага Закона, які будзе іх рэгуляваць".



У якасці прыкладу сацыял-дэмакраты распавядаюць пра тры "гарачыя" кропкі Магілёва – раёнаў "Чапаеўкі" і "Юбілейнага", а таксама вёскі "Нядашава-2". У гэтых месцах не былі ўлічаны інтарэсы грамадзян і Грамадскія слуханні альбо не праводзіліся, альбо нагадвалі сустрэчу, на якой проста інфармавалася аб тым, што будзе пабудавана (маецца на ўвазе мікрараён "Юбілейны").

Сябра Цэнтральнага Камітэтут БСДП Леанід Падбярэцкі кажа, што праца на ягоным раёне без дэпутацкага мандада ішла і ідзе дагэтуль.

"Людзі, па звычцы, як звярталіся да мяне, так і звяртаюцца. Дапамагаю чым магу. Змагаюся за тое, каб мой раён "Чапаеўка" стаў камфортным для пражывання магілёўцаў, каб былі ўсе камунікацыі, дарогі. Каб было добра людзям жыць. Каб любое дзеянне ўладаў на "Чапаеўцы" абмяркоўвалася з яе жыхарамі", - кажа Леанід Падбярэцкі.

Варта адзначыць, што Магілёўскія сацыял-дэмакраты ўжо распачалі працу над ініцыяцыяй Закона "Аб Грамадскіх слуханнях". На іх думку, гэты Закон здолее больш дакладна вызначыць сітуацыі і сферы жыццядзейнасці, калі мусяць адбывацца Грамадскія слуханні і больш канкрэтна прапісаць працэдуру іх правядзення.

# МАГІЛЁЎ: ЗЯМЛЯ АГУЛЬНАГА КАРЫСТАННЯ ЗАСТАЛАСЯ ЗА ФЕРМЕРАМ-ДЭПУТАТАМ

**20 лютага, суд Ленінскага раёна Магілёва спыніў вытворчасць па скарзе жыхара вёскі Нядашава-2 Магілёўскага раёна Зміцера Яўстратава, які, як і іншыя жыхары вёскі, хацеў аспрэчыць праз суд перадачу зямлі агульнага карыстання мясцоваму фермеру Юрыю Коршунаву.**

Вяскоўцы былі незадаволены тым, што цяпер яны засталіся без луга, дзе любілі адпачываць сем'ямі, акрамя таго праз распаханае поле доступ да вадаёма аказаўся немагчымым.

"Зямля была перададзена кіраўніку сялянска-фермерскай гаспадарцы "Пралесак" Юрыю Коршунаву са шматлікімі парушэннямі. Мы пісалі скаргі ў пракуратуру і выканкамы, адкуль атрымалі дакументы, якія гэта пацверджваюць. Было дысцыплінарна прыцягнута да адказнасці некалькі чыноўнікаў, аднак зямля так і засталася ў арэндзе ў мясцовага фермера", - кажа Зміцер Яўстратаў.



Два гады назад фермер перапахаў луг і засеяў зямлю кукурузай. Апроч таго ён распахаў і існуючыя старажытныя курганы, якімі ўжо зацікавіўся археолаг Ігар Марзалюк.

"Суд вяла суддзя Тарасава. Яна адмовілася задаволіць маё хадайніцтва аб тым, каб у суд былі выкліканы сведкі – жыхары вёскі Нядашава-2. Я тры разы заяўляў ёй адвод, аднак гэта не прынесла ніякага выніку. У сваім вызначэнні Тарасава пазначыла, што дзеючае зямельнае заканадаўства не прадугледжвае ўдзел грамадзян у абмеркаванні пытанняў пераводу зямель з адной катэгорыі і відаў у іншыя, калі пры гэтым не мяняецца іх мэтавае прызначэнне", - гаворыць вясковец.

Апроч таго суддзя вызначыла, што Магілёўскім райвыканкамам прыняты рашэнні сыходзячы з дзяржаўных інтарэсаў і ў адпаведнасці з пратаколам даручэнняў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №12 ад 11 траўня 2010 года аб прыняцці дадатковых мер па інвентарызацыі сельскагаспадарчых зямель, прыцягненню ў гаспадарчае абарачэнне неэфектыўна выкарыстоўваючых зямельных надзелаў, у межах прадастаўленых паўнамоцтваў, што не закранае правы і законныя інтарэсы заяўніка і не падлягае судоваму абскарджванню.

Сам Зміцер Яўстратаў з такімі фармулёўкамі не згодзен і збіраецца абскарджваць іх у абласным суддзе.

"У Зямельным Кодэксе, як і ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, гаворыцца, што ўсе дзеянні ўлады адбываюцца галосна з улікам інтарэсаў простых грамадзян. Нас жа проста не заўважылі і ўлады зрабілі так, як ім выгадна. У вызначэнні гаворыцца пра тое, што да вадасховішча ідзе дзве дарогі, па якіх людзі могуць дабрацца, аднак гэта поўная хлусня. Адна дарога ідзе ўздоўж могілак і прыводзіць да ракі Шчацінка, дзе возера яшчэ няма, а другая дарога перапахваецца гэтым фермерам, таму доступа нам да вадаёма няма", - гаворыць вясковец.

## ОБРАЩЕНИЕ
### *(о необходимости принятия специального закона «Об общественных слушаниях»)*

### Обоснование

На данный момент в стране нет единого нормативно-прававого документа, который бы регулировал проведение общественных слушаний во всех сферах жизнедеятельности.

К примеру, в Кодексе «О земле» указано, что решения по регулируемым им вопросам, которые затрагивают интересы всех жителей соответствующих территорий, должны приниматься гласно и с учётом их общественного мнения. В «Водном кодексе», статус общественности существенно снижен.

В нём уже указано, что граждане и общественные объединения имеют право в установленном порядке принимать участие только в рассмотрении местными Советами депутатов, органами государственного управления таких общественно значимых вопросов. Но в нём ничего не сказано, что власти обязаны принимать такие решения с учётом их общественного мнения.

В Беларуси только в экологическом законодательстве и законодательстве об архитектурной, градостроительной и строительной деятельности установлены отличающиеся друг от друга порядки, позволяющие жителям напрямую в заметно разной степени самостоятельно влиять на местные Советы и на органы государственного управления соответствующего уровня при принятии ими решений по вопросам, которые эти жители считают общественно значимыми. При этом в этих законодательствах для обозначения одного и того же процесса используются разные термины. В экологическом законодательстве используется международно признанный термин «общественные слушания», а в законодательстве об архитектурной, градостроительной и строительной деятельности – «общественные обсуждения». В других же законодательных документах и Кодексах учёт общественного мнения только продекларирован, но порядок его учёта не установлен.

Иными словами в Беларуси законодательно не установлена единая форма участия общественности дворов, улиц, микрорайонов, административно-территориальных единиц и общественных организаций в обсуждении общественно значимых решений, инициируемых властями и самими жителями.

### Прецеденты

В 2012 году жители м-на «Чапаевка» узнали о планах властей пустить их малоэтажные дома под снос, ведь согласно генеральному плану развития города до 2030 года на месте «Чапаевки» должен появиться современный район многоэтажной застройки. Никто об интересах людей не спрашивал. Тем временем на «Чапаевки» появилось много элитных домов и м-н постепенно превращается из района преимущественно деревянных домов в район современных коттеджей. О протестах населения свидетельствуют акции по сбору подписей, многочисленные публикации в независимых СМИ и включение данного вопроса в предвыборную программу экс-кандидата в депутаты ПП НС РБ по «Могилёвскому Ленинскому избирательному округу №84» Леонида Подберецкого.

***В Беларуси только в экологическом законодательстве и законодательстве об архитектурной, градостроительной и строительной деятельности установлены порядки, позволяющие жителям влиять на принятии решений местными властями***

В ноябре 2012 года на ул. Королёва (м-н «Юбилейный») прошло три стихийных митинга протеста, а также был организован сбор подписей против уплотнения района новыми домами. Люди также протестовали против уничтожения берёзовой рощи высаженной ими много десятилетий назад. Никто никаких общественных слушаний не проводил, также как и никто не интересовался мнением людей о необходимости строительства этих домов. Встреча представителей властей в одной из школ города с жителями данного района имела информационный характер – чиновники проинформировали общественность о том, что будет построено на их районе. Никаких общественных обсуждений, влияющих на принятие решения, не было и в помине.

В 2011 году в деревне Недашево-2 Могилёвского района земля общего пользования без проведения общественных слушаний была передана местными чиновниками в пожизненную аренду фермеру Юрию Коршунову. Фермер распахал луг, который находится в границах населённого пункта между водоёмом и домами жителей. Он засадил его кукурузой, в результате чего жители всей деревни остались без свободного доступа к водоёму, где ранее свободно проводили своё время – отдыхали семьями, купались и ловили рыбу, а также существенно снизилась рыночная стоимость их домов и земельных участков. Многолетняя переписка установила множество фактов нарушения закона при передаче земли фермеру, в том числе непроведение общественных слушаний, однако, земля и поныне остаётся за фермером. Жители деревни с жалобой обратились в районный суд, который вынес неожиданное определение, что, якобы, эти решения властей не подлежат судебному обжалованию. Сейчас дело находится в областном суде.

Все эти истории свидетельствуют о столкновении интересов людей и властей и накаляются они в силу отсутствия общественных слушаний и учёта мнения граждан.

**працяг на стр.4**

Отсутствие Закона «Об общественных слушаниях» создаёт «горячие» точки не только на карте города, но и всей страны в целом.

**Законодательная основа**

Основа такого закона имеется в первую очередь в экологическом законодательстве. В нём на основании Орхусской конвенции, ратифицированной Беларусью, процедура проведения общественных слушаний урегулирована в Инструкции о порядке проведения оценки воздействия на окружающую среду планируемой хозяйственной и иной деятельности в Республике Беларусь (далее – Инструкция ОВОС), утверждённой Постановлением Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь от 17 июня 2005 г. №30. В этой Инструкции ОВОС общественность признается одним из обязательных субъектов оценки воздействия принимаемых решений на экологическое состояние окружающей среды. Орхусская конвенция – Конвенция Европейской экономической комиссии ООН о доступе к информации, участии общественности в процессе принятия решений и доступе к правосудию по вопросам, касающимся окружающей среды.

***Будущий Закон «Об общественных слушаниях» должен обеспечить необходимые условия для непосредственного эффективного участия граждан в принятии общественно значимых решений во всех сферах жизни общества.***

Постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 01 июня 2011 г. №687 утверждено Положение о порядке проведения общественных обсуждений в области архитектурной, градостроительной и строительной деятельности. Но в нём возможности общественности влиять на власти при принятии общественно значимых решений по сравнению с Инструкцией ОВОС существенно уменьшены, в том числе и за счёт подмены термина «общественные слушания» на «общественные обсуждения» – чтобы уйти от влияния и требований Орхусской конвенции.

Будущий Закон «Об общественных слушаниях» должен обеспечить необходимые условия для непосредственного эффективного участия граждан в принятии общественно значимых решений во всех сферах жизни общества.

## Паважаныя магілёўцы!

**Прыняць удзел у абмеркаванні прапаноў па новаму Закону «Аб Грамадскіх слуханнях» вы таксама можаце ан-лайн на старонках сайта газеты «НАШ Магілёў».**

# GAZETANM.EU

На старонках гэтага сайта выкладзены больш падрабязныя напрацоўкі актывістаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады).

Свае прапановы вы можаце ўносаць пакідаючы каментары пад дадзеным дакументам.

Пасля кругла стала, які адбудзецца ў Магілёве ў бліжэйшы час, будзе вызначаны спіс адрасатаў, каму будуць высланы прапановы па ініцыяцыі дадзенага Закону.

Вы таксама можаце паставіць подпіс пад канчатковымі напрацоўкамі ініцыятараў дадзенага Закону. Дзеля гэтага вам неабходна набраць нумар праваабаронцы Барыса Бухеля і паведаміць аб сваім жаданні. Нашы актывісты абавязкова звяжуцца з вамі.

**Мы хочам, каб праз Грамадскія слуханні мясцовыя ўлады абмяркоўвалі свае жаданні з мясцовым насельніцтвам. Гэтая мера здолее зняць сацыяльную напружанасць, канфлікты жыхароў з мясцовай уладаю, а таксама будзе спрыяць шырокаму ўсебаковаму абмеркаванню, дзе кожны мае права выказацца і быць пачутым.**

**Барыс Бухель**
праваабаронца



Калі ў вас ёсць сваё бачанне таго, якім павінен быць Закон «Аб Грамадскіх слуханнях» і якія абавязковыя пункты ён мусіць утрымліваць - тэлефануйце мне на нумар

**+375 29 133 75 50**

**Вашыя прапановы абавязкова будуць улічаны!**

По гэтаму нумару тэлефона вы таксама можаце запісацца на круглы стол і прыняць удзел у больш шырокім абмеркаванні нашай ініцыятывы.

**САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ**

**Галоўны рэдактар ВІТОЛЬД НЯЎРЫДА**

Бюлетэнь Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)
Надрукавана ў Магілёве на ксераксе. Наклад 299 асобнікаў
Распаўсюд бясплатны.
Выраблены пра тэхнічнай падтрымцы рэдакцыі газеты «НАШ Магілёў»
e-mail: gazetanm.eu@gmail.com